# УзГорак

№ 3 – 25 сакавіка 2003 г. - Газета Грамадскіх арганізацый і ініцыятыў.

# 3 жыцця маль што двухгадовага дзіцяці

## Жыцце грамадскай арганізацыі ў разрэзе

### Казка першая.

Жыла адна жанчына і не было ў яе дзяцей. Вось пайшла яна да чараўніцы і кажа: "Мне вельмі хочацца мець дачку. Падкажы, дзе мне яе ўзяць?"

- Вось табе ячменнае зерне. Гэта зерне няпростае. Пасадзі яго ў гаршок для кветак, а потым убачыш, што будзе...

Хутка казка кажацца, ды няхутка справа робіцца. З таго часу, як у дванаццаці жанчын нарадзілася "дачка" "Любава" ўцякло шмат вады. Таму зараз, калі ў арганізацыі ёсць імя і невялікія, але - здабыткі, самы час распавесці пра яе жыццё і рухаючую сілу. Гэта не набіўшы аскоміну фемінізм, усе значна прасцей. Жанчыны з "Любавы" не даракаюць на цяжкасці цяперашняга жыцця, а часам бяруцца пляпшаць яго самі.

"Дзіцё" нарадзілася ў ліпені 2001 года. "Народзіны" адбываліся на вуліцы, бо не было памяшкання, каб сабрацца. Дзень быў спякотны, жанчыны - поўныя сіл і энергіі - яны тады яшчэ толкам не ведалі, што гэта такое - грамадская арганізацыя. Здавалася, што добра проста недзе збірацца, піць разам гарбату і выказваць свежыя ідэі. Але час паказаў, што наперадзе чакаюць не толькі прыемныя моманты.

Першымі буйнымі справамі сталі конкурс дзіцячага малюнка "Намалюем дом будучага", рок-канцэрт "Твой лёс - твая Беларусь", праведзены сумесна са студыяй "Жывы гук", і Школа жаночага лідэрства, дзе жанчыны набывалі патрэбныя веды. Прайшло зусім няшмат часу і "Любава" падышла да выканання свайго першага буйнога праекта "Карамелька з сюрпрызам".

Але гэта - зусім другая гісторыя.



Сабраўшыся разам, актывісткі «Любавы» могуць весці сур"ёзныя размовы, ці гуляць у вясёлыя гульні (фота з архіва «Любавы»)

### Казка другая.

Жыў у горадзе Ніеі хлопчык па мянушцы Маленькі Мук, якога за невялічкі рост увесь час дражнілі суседскія дзеці. Жылі яны з бацькам бедна, але хутка бацька памер, хату за даўгі адабралі, а Мука выгналі на вуліцу. Хлопчык выцер слезы і пайшоў шукаць краіну, дзе, ен верыў, усе людзі шчаслівыя.

Многія пагадзяцца з тым, што да нядаўняга часу аб сапраўды дзіцячым кафэ ў Горках гаварыць не прыходзілася. "Лакамка", што знаходзіцца ў цэнтры, ператварылася хутчэй ў месца прытулку для дзядзек, якія заходзілі туды выпіць шкляначку чаго-небудзь "з градусам". Праводзіць дзіцячае свята, клі побач п'юць "чарніла", згадзіцесе, нязручна.

І тады за справу узялася "Любава". Дзякуючы Праграме Партнерства амерыканскага фонда "Каунтэрпарт", які падтрымаў праект "Карамелька з сюрпрызам", жанчыны разам з моладзю і школьнікамі шылі касцюмы, прыдумлялі сцэнарыі і рыхтавалі музычнае суправаджэнне. А на навагоднія і калядныя святы ў цяперашнім кафэ "Чабурашка" ўжо адбыліся першыя мерапрыемствы. Пазней былі яшчэ святкаванні сямейных датаў сумесна з бацькамі, не раз даводзілася працаваць на выездах, бо ў хуткім часе ўлады прыкрылі памяшканне, матывуючы гэта адсутнасцю абсталявання. І ўсе ж штуршок быў дадзены - праблему ў Горках заўважылі і зараз кафэ працуе.

Але жаданне працаваць у жанчын засталося. Святы з казачнымі персанажамі і салодкімі пачастункамі праходзілі ў дыска-бары, кафэ "Тракцір", "Пельменнай".

А нядаўна, ідучы па вуліцы, я сустрэла хлопчыка, які, павітаўшыся, шчыра ўсміхнуўся. Спачатку не зразумела, адкуль ен мяне ведае, а потым успомніла - ён прыходзіў у дзіцячае кафэ.

### Казка трэцяя.

*Калі ў знакамітага восліка Іа прапаў хвост, то Сава, да якой звярнуўся за дапамогай сябра небаракі Віні-Пух, прапанавала выйсце з гэтай сітуацыі: "Зрабіць трэба наступнае: па-першае, трэба паведаміць у прэсу..."*

Адна з самых гучных акцый "Любавы" прыкладна так і пачыналася. Пагля-даючы неяк раніцай за кубачкам кавы свежы нумар "Рэгіянальных ведамасцяў", кіраўнічка жаночай арганізацыі звярнула ўвагу на артыкул "Знайдзіце нам спонсара". Старасельскаму інтэрнату была патрэбна дапамога. Ініцыятыву жанчын падтрымалі іншыя арганізацыі, сябры грамадскага клубу "УзГорак". Зваротам з рэпрадуктара да прадпрыймальнікаў і простых грамадзян раніцой 31 сакавіка на гарадскім кірмашы пачалося дабрачыннае мерапрыемства "Скажы дзецям ТАК".



У ім удзельнічалі не толькі нашы беларускія камерсанты з Оршы і Магілева, але прадпрыймальнікі з Украіны і Узбекістану. Вопратка, абутак, кніжкі і мыючыя сродкі пазней былі перададзены непасрэдна ў школу-інтэрнат, а ўдзячныя дзеці ў адказ зладзілі канцэрт для арганізатараў мерапрыемства.

Працяг на ст. 4



# 25 сакавіка

## 85-я гадавіна абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР)

У пачатку XX-га стагоддзя шэраг народаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы ступілі на шлях да дзяржаўнай незалежнасці. У сакавіку 1918 года беларусы таксама здолелі вярнуць сваю дзяржаўнасць. Намаганнямі беларускай грамадска-палітычнай эліты ў пачатку сакавіка 1918 года (без удзелу расійскіх бальшавікоў) была ўтворана Беларуская Народная Рэспубліка, а 25 сакавіка было аб'яўлена пра яе незалежнасць. Першая ў навейшай гісторыі беларуская дзяржава ўзнікла і была аб'яўлена на сваіх этнічных і пацверджаных гісторыяй тэрыторыях, ад Беластока да Дарагабужа і Вязьмы, ад Дзвінска (зараз - г. Даугаўпілс у складзе Латвіі) і Вільні (зараз - г. Вільнюс, сталіца Літвы) да Ноўгарада-Северскага. Гэта найвялікшая падзея адбылася пасля дзесяцігоддзяў знішчэння і шалёнай русіфікацыі, у цяжкіх умовах першай сусветнай вайны і нямецкай акупацыі. Задачу нацыянальнага Адраджэння Беларусі і кансалідацыі грамадства павінна была ўзяць на свае плечы Беларуская дзяржава. Былі наладжаны вельмі добрыя адносіны з украінцамі, беларускія місіі знаходзіліся ў Берліне, Літве, Латвіі і Эстоніі. Пытанне дзяржаўнай незалежнасці Беларусі было важным фактарам палітыкі на працягу XX-га стагоддзя ў гэтай частцы Еўропы. Але знешнія абставіны былі не на нашым баку.

Еўропа амаль не падтрымала Беларускай дзяржаўнай незалежнасці. Стаўка рабілася на новую Польшчу (каб паўстрымаць немцаў і адгарадзіцца ад бальшавікоў). Беларусь была ўвогуле здадзена савецкай Расіі. Вельмі падобнае становішча назіраецца зараз. Еўрапейская геапалітыка ад часоў Рыму ходзіць аднымі і тымі ж вытаптанымі дарожкамі. Гэта дазваляе нам разумець сённяшнія з'явы і прадбачыць будучыя. На заваёву свету выпраўляліся старажытныя кітайцы, ідучы да канца Паднябеснай, і дзікія манголы, імкнучыся на конях — да Апошняга мора, і каравэлы еўрапейцаў, рабуючы дармавыя землі. Гэтым жа шляхам крочаць і сённяшняя ліберальныя дэмакраты ды рознага кшталту глабалісты, інвэстуючы дурныя ідэі і вялікія грошы ў посткаланіяльны адсталы свет. Мэта адна - прага нажывы. У Еўропе на працягу ўсёй паслярымскай гісторыі не перапыняліся імкненні паўтарыць вялікі Рым, аб'яднацца. Актыўнай і практычна адзінай сілай у гэтым працэсе з'яўляюцца немцы. Прычыны тыя ж: "вілер цур махт" - прага да нажывы, рэалізацыя дзяржаўнай сілы.

Апошняя спроба Гітлера аб'яднаць Еўропу ў Трэці Райх пры дапамозе танкаў і канцэнтрацыйных лагераў пацярпела фіяска. Гэтак жа, як і іншыя нямецкія спробы ў пачатку XX-га стагоддзя, і значна раней.

Тым часам у гады сярэднявечча (маецца на ўвазе XIII — XVIII стагоддзі) Еўропа мела больш стабільную канструкцыю, паколькі на ўсходзе Еўропы існавала моцная сіла - Беларусь (Вялікае Княства Літоўскае, як яе тады называлі). Яна ўраўнаважвала дзве агрэсіўныя экспансіі: варварскую з Усходу (распачатую гунамі і падхопленую манголамі і Масквой) і "цывілізацыйную" з Захаду (што цягнулася ад Рыму і была падхоплена немцамі). У XV-м стагоддзі нямецкую экспансію ўдалося прытармазіць (перамога пад Грунвальдам). Тым часам 500 гадоў перманентнай вайны з Масковіяй і варварамі з усходу абяскровілі нашу краіну. Пералом адбыўся толькі тады, калі заходнія і ўсходнія агрэсары (ворагі ВКЛ) аб'ядналіся і дамовіліся аб сумеснай палітыцы. Гэта здарылася ў XVIII стагоддзі і прывяло да падзелу Рэчы Паспалітай. Стабільная геапалітычная структура Еўропы была разбурана, і "заклятыя сябры" апынуліся адзін перад другім твар у твар. Далейшыя лёсы Еўропы можна было прадбачыць.

Вынік ліквідацыі Беларускай дзяржавы - дзве вялікія Сусветныя вайны, з дзясяткамі мільёнаў ахвяраў і непапраўнымі стратамі ў культуры. Зараз незалежная Беларусь зноў можа патрапіць (калі ня знойдзе выхаду) у становішча паміж Сцылай і Харыбдай (гэта азначае паміж Расіяй і Нямеччынай), нібы жалеза паміж молатам і кавадлам..

Беларусь рвалі на кавалкі усё дваццатае стагоддзе. У першай яго палове дзяржаўныя межы нашай краіны істотна змяняліся больш дзесятка разоў.

Пачынаючы ад ленінскага Берасцейскага міру і Рыжскай змовы да сталінскага Ялцінскага падзелу мы былі асуджаны на нацыянальнае знішчэнне. Расейскія акупанты-камуністы рабілі на Беларусі, што хацелі: адбіралі ў людзей уласнасць і будучыню, знішчалі традыцыйнае сялянства, ліквідавалі беларускія школы, і цалкам - нацыянальную вышэйшую адукацыю, разбуралі храмы і гістарычныя цэнтры беларускіх гарадоў, асушалі лугі і балоты, выпрасталі і пазнішчалі рэкі, набудавалі гігантскіх свінакомплексаў для ўсяго СССР, зглумілі прыроду, задушылі мову і думку і, што вельмі істотна, начыста вынішчылі, затапталі і збэсцілі гістарычную памяць некалькіх пакаленняў беларусаў.

Ідэі БНР жылі і пераховуваліся толькі за межамі Беларусі, на Захадзе, у эміграцыі сярод тых беларусаў, якія абудзіліся да нацыянальнай годнасці. Гэта станоўча паўплывала на развіццё новага беларускага Адраджэння ў 80-х гадах.

Беларуская нацыянальная эліта, якая ў 1988 годзе арганізавалася ў Беларускі Народны Фронт, пераняла гэрб "Пагоня", бел-чырвона-белы сцяг і ідэі БНР, адразу сутыкнуўшыся з пытаньнямі геапалітыкі, без разумення якіх не магла існаваць і развівацца незалежная Беларусь.

Тэрытарыяльнае пытанне ўзнікала на ўсіх этапах змагання за дзяржаву і незалежнасць. БССР была задумана і аб'яўлена бальшавікамі ў Смаленску. Потым, зыходзячы з падставы, што БССР створана як часовае ўтварэнне ў піку БНР, усе ўсходнія тэрыторыі Беларусі разам са Смаленскам Расія забрала сабе. У 1919 годзе бальшавікі страцілі цікавасць да БССР і арганізавалі ЛітБел (Літоўска-Беларускую Рэспубліку) са сталіцай у Вільні. Потым (у 1920-м) зноў вярнуліся да БССР, а ў 1921 годзе, у Рызе (без удзелу беларусаў), падзялілі Беларусь паміж Расіяй і Польшчай, пакінуўшы БССР некалькі паветаў цяперашняй Мінскай вобласці. "Далі шэсць паветаў - дзякуй і за гэта" - пісаў у той час Янка Купала. Нават нашы прыгожыя Горкі тады былі "інтэгрыраваны" ў склад Смаленскай вобласці. Вяртацца да беларускага пытання бальшавікоў, якія ў той час намагаліся легітымізаваць свой рэжым на Захадзе, прымушала актыўная дзейнасць Урада БНР у эміграцыі.

**Працяг на ст. 3**

# 25 сакавіка...

*Пачатак на ст. 2*

У 1939 годзе адбыўся чарговы перадзел Усходняй Еўропы, на гэты раз ужо па класічнай схеме - паміж Расіяй і Нямеччынай. У склад БССР былі вернуты Заходнія тэрыторыі. У Беластоку праводзіцца З'езд дэлегатаў заходняй Беларусі аб уз'яднанні з БССР. У Вільні праходзіць масавы мітынг каля ста тысяч чалавек (у горадзе тады было каля двухсот тысяч жыхароў), удзельнікі якога выказаліся за ўз'яднанне з БССР. У Мінску пачынаюць настройвацца да пераезду дзяржаўных устаноў у старажытную сталіцу. Але ў гэты ж час Сталін перадае Вільню Літве (нібыта ўзамен за расейскія вайсковыя базы на яе тэрыторыі). А неўзабаве "верны" саюзнік Сталіна Гітлер ударыў па Савецкім Саюзе.

Трэба адзначыць, што ўсе гэтыя разборы, падзелы, псеўдадзяржаўныя ўтварэнні, пачынаючы ад ленінскага "Берасьцейскага міру" і "Рыжскай змовы" рабіліся чужымі сіламі. Адзінымі легітымнымі актамі беларускай дзяржавы таго часу з'яўляюцца **Акты Рады БНР** аб незалежнасці і ўладкаванні Беларускай Народнай Рэспублікі, якія па сёння не згубілі сваёй вартасці.

Дэкларацыя аб незалежнасці РБ, прынятая ў 1991 годзе, шмат у чым пераклікаецца са зместам Актаў БНР. Аднак Рада БНР у эміграцыі дагэтуль не палічыла магчымым перадаць свае паўнамоцтвы цяперашняму кіраўніцтву Беларусі, як гэта адбылося ва Украіне. На думку кіраўніка Рады Івонкі Сурвіллы, беларуская незалежнасць пакуль яшчэ знаходзіцца пад пагрозай.

У пачатку 1990 году Сейм Літвы, дзе большасць дэпутатаў складалі сябры Саюдзіса, рыхтаваўся да аб'яўлення незалежнасці краіны. Масква, перашкаджаючы прыняццю такога рашэння, звярнулася да аргументацыі, закладзенай Сталінам, і выкарыстала "сваіх людзей" у кіраўніцтве Беларусі. Тагачасны Старшыня Вярхоўнага Савета БССР ХІ-га склікання Дзямянцей выступіў пад дыктоўку Масквы з заявай аб вяртанні Вільні і Віленшчыны Беларусі у выпадку, калі Сэйм Літвы прыме рашэнне аб незалежнасці. Перамовы 1990 года, якія адбыліся ў Вільні ў выніку "правакацыі Дзямянцея" далі магчымасць выявіць рэальнае разуменне сітуацыі, засведчыць салідарнасць з Саюдзісам і падтрымаць імкненне нашых суседзяў да незалежнасьці (бо ў гэтым была перспектыва і нашай незалежнасці), паставілі пытанне аб гарантыях культурнанацыянальнага разьвіцця беларусаў Віленшчыны.

Але мы разумеем, што пытанне Вільні, аднак, зусім не здымаецца з гістарычнага току падзей і рана ці позна Беларусь да яго вернецца.

У траўні 1990 года ў Маскву ў Вярхоўны Савет СССР і ў Вярхоўны Савет РСФСР выехала неафіцыйная парламентцкая дэлегацыя Беларускага Народнага Фронту. Былі праведзены спатканні і перамовы з дэпутацкай дэлегацыяй і кіраўніцтвам Смаленскай вобласці. Беларускую дэлегацыю цікавіла, як смаленскае кіраўніцтва аднясецца да ідэі далучэння Смаленшчыны да Беларусі пры ўмове загаспадарвання беларусамі апусцелых смаленскіх зямель. Адносіны смаленцаў да вяртання Смаленшчыны ў склад Беларусі былі цалкам станоўчыя, калі б пра гэта было прынята палітычнае рашэнне кіраўніцтва двух рэспублік. Неўзабаве летам 1994 года ў Беларусі адбыліся фатальныя падзеі, якія шмат у чым перакрэслілі заваёвы новага Беларускага Адраджэння. Беларусь зноў апынулася паміж Сцылай і Харыбдай.

Але ўжо ў канцы 1997 года ў Беларусь прыязджае немец Ганс-Георг Вік, які, выкарыстоўваючы АБСЕ і абапіраючыся на заходнія сродкі, пачынае непасрэдна ствараць у Беларусі альтэрнатыўную (наменклатурную) апазіцыю на расплывістым грунце агульнай дэмакратыі (без суверэнітэту). Фармальная мэта альтэрнатыўнай, так званай "аб'яднанай апазіцыі", змаганне за дэмакратыю. Але ні слова пра рэальнасць - пра змаганне з заборчай палітыкай і імпэрскай агрэсіяй Расіі.

Менавіта ў гэты час выяўляецца ўзаемадзеянне расейскай і нямецкай палітыкі ў справе інкарпарацыі Беларусі ў Расію. Дэмагогія пра "дэмакратыю" тут выкарыстоўваецца ў якасці дымавой заслоны дзеля маскіроўкі нямецка-рускіх геапалітычных інтарэсаў. У Маскве пастаўлена задача пашырэння расейскай імпэрыі за кошт паглынання Беларусі.

Тым часам на Захадзе на нашых вачах уздымаецца новы еўрапейскі монстр, так званая "Аб'яднаная Еўропа", альбо Еўразвяз. Ужо добра відаць контуры гэтай новай бязбожнай суперімперыі з свабодай паскудства, нажывы і спажывецтва, са збочанай мас-культурай. У перспэктыве немцы ўжо плануюць канстытуцыю, прэзыдэнта, міністэрства замежных спраў Еўразвязу, потым - урад, "федэрацыю", адмаўленне ад прынцыпа кансэнсуса пры прыняцці рашэнняў і г.д.

Мінулыя і цяперашнія еўраспадары, як паказвае гісторыя, для дасягнення інтарэсаў гатовыя заключыць саюз нават з д'яблам. І таму нямецкі саюз з Пуціным нікога ўжо не здзіўляе. Але цалкам зразумела, за якую "дэмакратыю" будуць змагацца гэтыя саюзнікі-хаўруснікі ў Беларусі.

Думаючы аб нашай перспэктыве, як цывілізаванай незалежнай краіны, мусім звярнуцца зноў да ідэй стваральнікаў БНР. Зараз, калі Расія і Нямеччына праводзяць узгодненыя дзеянні, наша адраджэнская барацьба на два бакі - непазбежна. Як яна адбываецца і будзе адбывацца - гэта ўжо бягучыя пытанні. Але мы заўсёды павінны памятаць пра салідарныя дачыненні з Украінай і краінамі на поўначы. Мы мусім быць уважлівымі да нашых добрых адносінаў са Злучанымі Штатамі Амерыкі і да тых краінаў, якія не падтрымліваюць новы еўраазіяцкі "стрыжань", які заўсёды быў стрыжнем вайны.

Існаванне ў палітычным полі паміж Бэрлінам і Масквой вымагае ад нас больш рашучай псіхалогіі.

Калі мы хочам, каб не знікла наша будучыня, мы не павінны выракацца жадання і ідэі дзяржаўнасці і незалежнасці. Бо народ жыве пакаленнямі, а ідэі - не паміраюць.

*Падрыхтаваў*
*Віктар Каралькоў*

# В ожидании огня

В первом квартале текущего года в Горецком районе произошло тринадцать пожаров. Погиб один человек. Огнем уничтожено пять строений, одна единица техники.

Среди основных источников неконтролируемого огня лидируют неисправные печи - шесть случаев. Четыре пожара произошли по вине неисправного электрохозяйства, два - по причине неосторожного обращения с огнем, один - в результате детской шалости.

Сейчас, обогрев жилищ становится не таким актуальным, нас подстерегает другая напасть - поджоги сухой травы. Об их вреде для окружающей среды уже говорено-переговорено, но каждую весну с какой-то дикой целеустремленностью неведомые пироманьяки (так в медицине называют людей, с психическими «сдвигами», направленными на поджог и созерцание огня) бросают горящие спички на обочины дорог, заросшие с осени участки полей. В результате - гибнут мелкие обитатели этих территорий, выгорают придорожные посадки, а порой и попавшиеся на пути огня сооружения. Практически каждый год в сводках проскальзывает - бабушка жгла траву за хлевом, заодно спалила и хлев. Детки, нацепив на палки горящие пластиковые бутылки, «резвились» возле леса - сгорело два гектара. И так далее.

Давайте не создавать проблем себе и работы пожарным. Потому что, по их словам, «скоро начнется». В прошлом году по области в период весенних поджогов было около полутора тысяч выездов. Сейчас служба профилактики уже корпеет над составлением графика рейдов (в один из них обещано взять корреспондента нашей газеты) и других разъяснительных мероприятий с гражданами и руководителями предприятий. Интересно, что это за руководители, которым такие вещи надо разъяснять?

В прошлом году разъяснения были не слишком эффективными - в день наши борцы с огнем выезжали в разные точки района до пяти раз. Сейчас такой выезд обходится примерно в 25-30 тысяч рублей.

**На всякий случай.**

Гражданам, взятым за руку при поджоге сухой травы, пожарные инспектора имеют право «выписать» от двух до семи базовых. Должностным лицам - до тридцати. Инспекция по экологии имеет такие же права, только ставки у них повыше. Стоит ли напрашиваться? О тех, кто ответит на этот вопрос утвердительно, мы с помощью пожарных, постараемся подробно рассказать на страницах газеты. По возможности - с фотографиями.

*Иван Морозов.*

Пачатак на ст. 1

## Казка чацвёртая.

*Нашу вяселую тусоўку божых каровак называлі чаравічкамі. Гэта таму, што ўсе мы хадзілі ў асобных чаравічках, якія нам рабіў з крэпкай павуціны спецыяльны павук. Але які б добры не быў наш абутак, чаравічкі мелі асаблівасць зношвацца. І тады мы прыдумалі вось што. Дакладней, не мы, а дзядзька Кляксыч, які прапанаваў: "Дзеці мае, нам неабходна абзавесціся сваімі асабістымі канямі..."*

Яны ехалі ў госці. Хваляваліся, бо не ведалі, што чакае ў невялікай весцы Шалаханаўка. Але на вуліцы была вясна, свяціла сонейка і хацелася рабіць дабро. Кожнаму — выпадковаму падарожніку, сябрам і малазнаемым людзям: пенсіянерам і інвалідам, якія чакалі нас у звычайным вясковым клубе. Як аказалася, усе хваляванні былі дарэмныя: прыйшлі нават тыя, хто не мог перасоўвацца ўласнымі сіламі — гэтыя старыя прыехалі на конях. Дзве гадзіны праляцелі неяк незаўважна. Актывісткі грамадскага руху зладзілі сапраўднае свята для дзядуляў і бабулек — з гарбатай і духмянывам печывам ад спонсараў, вяселамі танцамі пад гармонік і задушэўнымі размовамі. Напрыканцы, калі гасціям трэба было вяртаціа да хаты, на вачах старых стаялі слезы. Яны прасілі прыязджаць часцей і ўсё пыталіся, каму ж можна падзякаваць за прыемна праведзены час. (Акцыя "Мы едзем у госці" была праведзена "Любавай" у межах "тыдня добрых справаў" у красавіку мінулага года.)

**Таццяна Роская**

# Детям Чернобыля

Гуманитарный груз стоимостью около 2 млн. долларов США прибыл в Могилёвскую область от общественной организации «Канадская помощь жертвам Чернобыля».

Канадская делегация из Броквиля во главе с председателем организации Дэвидом Шо доставила в область медицинское оборудование, медикаменты, продукты питания, стиральный порошок, одежду, обувь, личные посылки для детей. Гуманитарный груз будет направлен лечебным учреждениям «чернобыльских районов», Могилёвской городской больнице скорой медицинской помощи и медсанчасти «Химволокно», а также передан в школы-интернаты для детей сирот.

Спонсорскую помощь в доставке 14 морских контейнеров из Риги оказал АСБ «Беларусбанк», организационные проблемы по его прибытию в регион решали Белорусский Союз женщин и местные органы власти.

За годы сотрудничества с общественной организацией «Канадская помощь жертвам Чернобыля» в Канаде отдохнуло около 400 белорусских детей. Эта организация, сотрудничающая с Могилёвщиной с 1995 года, намерена в будущем году расширить объемы гуманитарной помощи области.

**www. region. mogilev. by**

Горецкий Общественный клуб «УзГорак»
Редакция газеты «Дзядзька Тарас»
***проводят по воскресеньям***
**благотворительную акцию**
## «Помощь и поддержка»
***На городском стадионе***
**во время проведения рынка**
***организован сбор пожертвований***
**для Дома ветеранов, малоимущих граждан, многодетных семей.**

Принимаются:

***книги, одежда, обувь, игрушки, как новые, так и б/у, пригодные для использования, а также средства гигиены.***

Мы находимся в помещении администрации рынка
**с 9 до 14 часов.**

# Крычаўскі сурпрыз

Згодна з распараджэннем аддзела культуры кіраўнік дзіцячай народнай студыі «Свістулька» з раённага бюджэта будзе атрымліваць толькі 20% заробку. Астатнюю суму яму прапанавана зарабляць праз рэалізацыю прадукцыі студыі і аказанне платных паслуг насельніцтву. На працягу апошніх трох месяцаў сп. Якавенка атрымлівае не больш за 54 тысяч рублёў за месяц.

Гэты майстар вядомы тым, што адрадзіў выраб старажытнай падняпроўскай глінянай цацкі, са сваімі выхаванцамі ўдзельнічаў у выставах, фестывалях і конкурсах не толькі на Беларусі, але ў Польшчы, Нямеччыне, Расіі, Украіне, Галандыі; арганізаваў дзіцячы ансамбль народнай музыкі і спеваў пад акампанемент глiняных струментаў зробленых удзельнікамі студыі.

**Андрэй Кузьмін**

# Выставки



В горецкой картинной галерее в эти дни проходят две выставки. На одной из них, в малом зале, экспонируются работы Горецкого фотохудожника Павла Нехаева, который не только пытается по-особому взглянуть на окружающий мир, но и философски осмыслить все, что происходит вокруг.

В большом зале выставлены работы художников из народного клуба «Ренессанс» (г.Орша). Как расказали сотрудники музея, обе выставки продлятся до начала мая.

**Иван Морозов.**

# Вымираем

Демографическая статистика последних лет из года в год убеждает нас, что в обществе что-то не так. Количество населения неуклонно сокращается. Вот и за первый квартал текущего года в Горках и Горецком районе родилось только девяносто семь новых жителей. Заключено шестьдесят пять брачных союзов. Увы, но чаще всего сотрудникам ЗАГСА приходилось регистрировать смерти. За три месяца нас покинули двести десять человек.

# «Любава» привлекает молодежь.

Большинство наших знакомых и друзей - граждане Республики Беларусь. Так записано в паспортах и разных свидетельствах. Участие в жизни государства для гражданина не ограничивается только голосованием на выборах, или работой в правительственных организациях.



17-18 марта Горецкая городская женская организация «Любава» провела семинары-тренинги для студенток общежития N1 по теме «Ативное гражданское участие молодежи».

В ходе семинаров, на которых присутствовало около тридцати человек, были выявлены проблемы, которые волнуют студенток и над которыми они хотели бы работать. Дружеская обстановка помогла разработать план реализации задумок по их решению.

В завершение среди участнии было проведено анкетирование, продемонстрировавшее эффективность проведенной встречи, результатом которой станет повышение гражданского самосознания студенток БГСХА.

В следующем месяце «Любава» планирует проведение круглого стола и конференцию с участием представителей разных секторов общества.

***Наталья Киреенкова.***

## Создается волонтерский центр

В пятницу, 28 марта, в помещении Центра социального обслуживания населения (ул.Красинская, 3) пройдет презентация Волонтерского центра «Добрые сердца», создаваемого Общественным объединением «Надежда» при поддержке Программы Партнерства Альянса Каунтерпарт.

Целью этой работы является активизация волонтерского движения в Горецком районе.

По задумке организаторов работы, вокруг нового Центра будет осуществляться координация работы по оказанию помощи нуждающимся людям, уже создана база данных как о действующих, так и о потенциальных волонтерах. Собрана информация об адресах заботы. Проводится работа по обучению тех, кто хотел бы присоединиться к волонтерскому движению.

За последние месяцы активистами «Надежды» проведены акции в поддержку пожилых людей и многодетных семей. Значительно улучшить работу, вывести ее на более качественный уровень поможет выделенная зарубежными партнерами оргтехника, поступления которой в общественной организации ожидают с нетерпением.

***Иван Морозов.***

# Помощь и поддержка

Год назад общественные организации нашего города провели благотворительную акцию "Скажи детям - ДА!», в ходе которой были собраны пожертвования для детей, воспитывающихся в Старосельской школе-интернате. Часть поступившей одежды больших размеров организаторы передали в Дом Ветерана.

В последнее время к представителям Общественного клуба «УзГорак» и в редакцию нашей газеты все чаще обращаются разные люди с вопросом, а будет ли продолжение? «У меня есть ненужные вещи в хорошем состоянии, а выбрасывать - жалко. С удовольствием отдала бы их нуждающимся».

В конце концов, мы решили: продолжать нужно. Договорились с администрацией стадиона, которая предоставила нам место в своем здании (там, где находятся примерочные), согласовали с зампредом райисполкома Натальей Корнеевой. В качестве организаторов акции теперь выступают городской Общественный клуб «УзГорак» и газета «Дзядзька Тарас». Поддержку намерены оказать Центр физвоспитания молодежи и некоторые предприниматели.

В субботу состоится очередное заседание Общественного клуба, на котором будут названы организации, пожелавшие принять непосредственное участие в сборе пожертвований, а также создана комиссия по распределению поступивших вещей. В ее состав войдут как общественники, так и представители государственных органов.

Адреса, по которым будет распределяться собранная «гуманитарка», будут самыми разными. Это и детские приюты, и Дома ветерана, и просто отдельные люди и семьи, которые нуждаются в поддержке. Если же вы, уважаемые читатели знаете таковых, то можете сообщить об этом нам по телефону 23524 (вечером), или через а/я 4а на почте. Можно также обратиться в ОО «Надежда» по телефону 21858. Те же координаты - для тех, кто хочет предложить свою помощь.

Теперь о порядке проведения акции. Начнется она в следующее воскресенье, тринадцатого апреля на городском стадионе в «рыночные» часы, т.е будет проходить с 9 до 14 часов. На этот раз мы не ограничиваем ее сроки. Сколько будут поступать пожертвования, столько и будем собирать. Приниматься будут любые вещи, как новые, так и бывшие в употреблении, но непременно годные для дальнейшего использования. Ими могут быть одежда, книги, игрушки, моющие средства. Кто придумает что-то свое - милости просим. А вот деньги принимать не можем. Тех, кто захочет их внести (в прошлый раз были такие предложения), попросим купить на них что-нибудь самостоятельно.

**И еще. Все пожертвования - абсолютно добровольные. Никто не обязан их делать. Есть у человека желание и, что немаловажно, возможность - будем рады. Нет, значит нет. Без каких-либо претензий.**

О поступившей помощи и дальнейшем ее движении мы будем регулярно сообщать на этой странице.

***Иван Морозов.***

Круглый стол по женским проблемам.

- Вы спрашиваете, почему мы с мужем расстались? А вы смогли бы терпеть постоянные придирки, пьянство, рукоприкладство!
- Конечно нет!
- Вот и он не смог

***

В нашем городе недавно прошла акция «Секс против наркотиков». Победил секс.

***

Колумбийские наркобароны бьют тревогу: «Молодежь спивается!»

# НАД ЧЕМ КОЛДУЕТ ГАРРИ ПОТТЕР?

***Вторая половина февраля ознаменовалась для Горок буквально историческим событием - в кинотеатре шел «Гарри Поттер», сменивший в детских умах изрядно поднадоевших за последние годы покемонов. Сие грандиозное событие было отмечено появлением на фасаде «Криницы» внушительного транспаранта, а по всему городу - специально изготовленных афиш. Горецкие носители культуры постарались сполна использовать шансы отвоевать внимание детишек (а заодно и содержимое родительских кошельков) у загрустивших ларечников, чьи полинявшие Пикачу и Бульбазавры за невостребованностью в последнее время отодвинуты с почетного места «у амбразуры» в дальние углы витрин.***

***На фоне всеобщего восторга мы предлагаем читателям материал, опубликованный несколько месяцев назад в газете «Витебский рабочий». Его автор, врач-психиатр С.Овчинников, представляет собственную точку зрения.***

Известна фраза о том, что государство — инструмент насилия. Сегодня, однако, многими социальными психологами (и не только) утверждается, что произошедший при демократии переход от прямого физического принуждения к манипуляции сознанием есть огромный шаг в развитии человечества. Человек, дескать, это большой ребенок, и манипуляция его сознанием (разумеется, ради его же «блага») «просвещенным» и «мудрым» правителем — не только допустимое, но и предпочтительное «прогрессивное» средство. Кнут — это больно, а духовный наркотик — приятно.

Принципиальным в доктрине манипуляции сознанием является следующее положение: если надо «промыть мозги» целому обществу и отключить здравый смысл, который накапливался на протяжении жизни нескольких поколений, и создать «одномерного» человека, манипуляторам необходимо обязательно овладеть СМИ и школой. Что касается «свободной прессы» — с ней все ясно. Сегодня в мире почти вся информационная продукция выпускается частными корпорациями. Главными держателями акций большинства СМИ являются крупнейшие банки. Овладение же школой — дело куда более проблематичное. Даже различные фонды здесь немногого пока добились. Издревле школа, основанная на христианских традициях, вышедшая из монастырей и университетов, ставила своей задачей воспитание личности, обращенной к идеалам, к Богу. Поэтому для манипуляторов идеальной является та ситуация, при которой знания формируются в основном не системой образования, а СМИ, которые создают «неживой», виртуальный мир, построенный по проекту заказчика. Разумеется, превалировать в них будут те ценности, которые нужны хозяевам.

Как ни старайся (знаю по собственной маленькой дочери), современных детей невозможно изолировать от «ящика». Некоторые психологи утверждают, что уже к 5 годам ребенок наметил в черновом варианте план собственной будущей жизни. Эта установка заложена литературой, кино и ТВ, которые не просто отражают жизнь современного человека, но и активно формируют его поведение. В первую очередь они воздействуют на подсознание наших детей — самого массового потребителя зрелищной продукции. Стоит ли касаться всего того, что сегодня наши дети видят на экранах ТВ и обложках глянцевых журналов? Затронем только силы потусторонние.

Мистическая продукция продолжает приносить растлителям детских душ огромные барыши. У детей воспитывается интерес и даже любовь к потусторонним силам. С ними, оказывается, можно даже подружиться, и они способны помочь человеку в трудных ситуациях. В наши дни к магии приучают с детства. Пример тому — «раскрутка» среди детей книг, а затем и фильмов о Гарри Поттере.

Этого «героя» выдумала писательница Джоан Р.Ро-улинг. Сын погибших колдунов обучается в школе чародейства среди таких же маленьких ведьм и колдунов. Опасность увлечения читателей и зрителей Потгером выглядит совершенно обоснованной, если учесть, что магические рецепты, изложенные в произведении, действительно смертельны. Об этом заявили врачи нескольких стран, в том числе и главный детский токсиколог Москвы.

Предупреждения медиков оказались небезосновательны. В апреле прошлого года сразу 20 школьников Новосибирска оказались в больнице, отведав «волшебный напиток» Гарри Поттера. Пятеро из них были помещены в реанимацию. Во многих странах спонтанно возникли родительские и священнические комитеты, которые выступают против широкой пропаганды «поттеромании». Но рекламный бунт колдовства уже запущен. Миллионам детей назойливо, тупо, методично внушается, что магия — безобидное занятие, невинное развлечение. Кстати, само имя «Гарри» в английском языке употребляется вместо слова «черт».

Еще одной опасной особенностью фильмов для детей «Гарри Поттер», «Властелин колец», «Корпорация монстров» и др. является та, что чудовища, монстры, демоны, колдуны, ведьмы, маги показаны внушающими большую симпатию и доверие, чем обычные люди. Их творцы пытаются перевернуть традиционные представления человека о добре и зле. Заметим, что оккультные произведения порой содержат прямые инструкции вампиризма и человеческих жертвоприношений. А как, например, вам понравится сказочка о маленьком симпатичном дракончике, которому необходимо каждый день скармливать стаканчик свежей крови? «Дюймовочка» и «Аленький цветочек», что называется могут отдыхать.

Для СМИ сегодня «ужасы» — такой же товар, как косметика, пиво и прокладки. На мистике, которая составляет почти треть всей видеопродукции, делаются огромные деньги, и никого не волнует искалеченная психика миллионов наших детей. Эфир заполонили экстрасенсы, колдуны, маги, гуру и другие носители «таинственного знания». И, повторюсь, самый сильный удар телевизионное насилие наносит по детям. Самая высокая частота сцен насилия обнаружена в детских мультфильмах. Встревожены даже ученые США. Ими было проведено большое количество экспериментов и сделан главный вывод: после просмотра сцен насилия и без внешнего к тому побуждения нормальные, хорошо адаптированные к социуму дошкольники начинают вести себя агрессивно. Причем они не только проделывают все, что увидели, но и дают широкий простор собственной фантазии.

Итак, «Гарри Поттер» — всего лишь безобидная детская книжка? Отнюдь. Это сработанный за деньги манипуляционный инструмент, орудие разрушения психики людей в том нежном возрасте, когда она еще не окрепла. Тот бред, который ребенок воспримет из этой красивой книжки, затем не выбьет ни мама с папой, ни учитель, ни психотерапевт. А если и выбьют, то с большим трудом.

# Конкурсу Бялынічах

28 сакавіка створана журы і вызначаны склад экспертаў конкурса на лепшае даследванне гісторыі Бялыніччыны, што быў абвешчаны радай Бялыніцкага краязнаўчага таварыства. У конкурсе ўзялі ўдзел 13 краязнаўцаў. Сярод удзельнікаў - настаўнікі, бібліятэкары, сябры мясцовых грамадскіх арганізацый, ініцыятыў і навучэнцы мясцовага сельскагаспадарчага ПТВ.

Увагу даследчыкаў прыцягнула гісторыя мясцовых паселішчаў, археалогія, этнакультурныя асаблівасці Бялыніччыны, перыяды знаходжання рэгіёну ў складзе Вялікага Княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай.

*Базыль Ліцьвіновіч*

# Новы кантакт

Праз інтэрнэт Крычаўскае грамадскае аб'яднанне "Кантакт-цэнтр" наладзіла сувязі з галандскай недзяржаўнай арганізацыяй "Культурны экспрэс".

Арганізацыя з галандскага мястэчка шмат год удала займаецца пытаннямі культуры і асветніцтвам не толькі на радзіме, але і ў замежжы, у тым ліку супольна з беларускімі калегамі. Акрамя таго, новых замежных знаёмых цікавяць постчарнобыльскія праблемы, актуальныя для крычаўлян — больш паловы тэрыторыі раёна забруджана радыёнуклідамі.

*Андрэй Кузьмін*

Могилёвским областным Советом пионерской организации была инициирована операция по сбору макулатуры, которая прошла в рамках общереспубликанской благотворительной акции «Построим библиотеку вместе».

Самыми активными в операции по сбору макулатуры стали пионеры Кричевского (ими выручено за макулатуру 304024 рубля), Осиповичского (113600 рублей), Костюковичского (104700 рублей) районов.

Всего в ходе операции пионерами Могилёвской области собрано 706224 руб.

*«Веснік Магілева»*

# Карысная сустрэча

27 сакавіка ў памяшканні суполкі БРСМ сельскагаспадарчай акадэміі адбылася сустрэча прадстаўнікоў моладзевых няўрадавых арганізацый Горак і адміністрацыі ВНУ з мэтай абмеркавання стварэння ў акадэміі органаў студэнцкага самакіравання.

На сустрэчы прысутнічалі актывісты мясцовых філіяў Грамадзянскага Форуму, БРСМу, прадстаўнік студэнцкага прафкама, ЗБС і прарэктар па выхаваўчай і інфармацыйнай працы Васіль Неўдах. У БДСГА ужо дзейнічае Каардынацыйная Рада, якая мае значныя паўнамоцтвы ў межах ВНУ на вырашэнне студэнцкіх праблем, дапамогу ў арганізацыі вольнага часу і наладжванні жыцця ў інтэрнатах. На думку прысутных, склад Рады не зусім адпавядае абавязкам, ускладзеным на яе. Удзельнікі мерапрыемства прыйшлі да агульнай згоды, што дзейнасць Рады неабходна актывізаваць праз удзел новых, актыўных ды зацікаўленых людзей. З боку адміністрацыі выказана пажаданне ўзгадняць у дэканатах кандыдатуры новых чальцоў Каардынацыйнай Рады, вылучаных студэнтамі.

Удзельнікі мерапрыемства ацэньваюць яго пазітыўна і спадзяюцца на супрацоўніцтва.

*Ільля Заранок*

## Хотите ли Вы работать мамой и папой?

В нашей стране несколько тысяч детей живут без материнской ласки.

Если Ваше сердце полно любви,

Если Вы можете ею поделиться,

Можете создать в доме условия для этого ребенка и не боитесь трудностей воспитания человечка, уже перенесшего горе, то приглашаем Вас работать приемными родителями.

Специалисты Управления образования Горецкого райисполкома всегда будут готовы придти на помощь.



За справками обращайтесь в органы опеки и попечительства Горецкого райисполкома по адресу: г.Горки, ул.Якубовского, 9, 4 этаж, каб. N72.

Телефон - 21906

# Проекты завершены ...и продолжаются



*Ветераны дружат с «Надеждой»*

Итоговыми мероприятиями проектов, поддержанных Программой Партнерства Альянса Каунтерпарт, стали презентация, проводившаяся ОО «Надежда» и круглый стол, который организовали активистки «Любавы».

Волонтерский центр, созданный первой из них, продемонстрировал и количество (собралось довольно много народу от школьников до пенсионеров) и качество - интересные программы показали волонтерские группы из Педучилища и школы N1.

Итоги работы по созданию женского информационного центра подвела «Любава». Эта организация находится в более сложных условиях - работать без помещения и оргтехники трудновато. Тем не менее, и здесь проект будет продолжен - сейчас ведется обработка данных, полученных в результате анкетирования.

*Иван Морозов*

***Самое активное участие в жизни общественного клуба «УзГорак» принимает молодежная юридическая инициатива «Фемида», возглавляет которую студентка БГСХА, по имени Елена. Для более близкого знакомства с этой жизнерадостной девушкой и ее коллегами мы предлагаем читателям***

# Монолог лидера

Меня зовут Елена Белехова, мне 19 лет. Живу в г.Горки и учусь на втором курсе факультета общества и права Белорусской сельхозакадемии. Окончила с золотой медалью Горецкую школу N4. Я горжусь, что училась у лучших педагогов нашего города: Ольги Моховой, Валентины Пуховской, Любови Рябцевой, Валентины Божко. Им не должно быть стыдно за мою успеваемость в стенах ВУЗа.



По-прежнему много читаю, люблю слушать радио и хорошую музыку. С удовольствием посещаю спортзал, правда не совсем девичью секцию, зато с удовольствием. Уважаю своего тренера - Виктора Ивановича Радюка.

Мое увлечение - танцы. Я их полюбила с шести лет. Десять лет танцевала в детском хореографическом ансамбле «Огоньки». И теперь считаю это своим хобби, где удовольствие - три в одном: хорошая музыка, приятное общение и настоящая зарядка.

С первого дня учебы в Академии я внимательно следила за интересной и непростой жизнью третьего сектора. Под руководством опытных педагогов, в частности, Александра Исааковича Каданчика, стала читать литературу о развитии гражданского общества, о работе общественных объединений. Охотно принимала участие в тренингах, которые проводили для нас тренеры САР и Белорусской ассоциации женщин-юристов. Они научили меня думать не только о себе, но и о тех, кто рядом, творить вокруг себя добро.

Я поняла, что это мое. Оказалось, что так же думают и того же хотят другие студенты моего курса: Илья, Рашид, Татьяна и некоторые другие. Так и появилась наша общественная молодежная студенческая инициатива, «Фемида». Нашим добрым учителем и партнером стало Общественное объединение «Надежда». Участники этого объединения терпеливо учили нас первым самостоятельным шагам в третьем секторе, помогали планировать работу, приглашали участвовать в акциях милосердия, в волонтерском движении, в других совместных делах.

Интересно стало работать после создания в Горках Общественного клуба «УзГорак». Для нашей молодежной инициативы это явилось вторым рождением. Я приобрела множество друзей и партнеров по работе, а самое главное - у меня появилась возможность иметь мудрых наставников. Это Татьяна Киреенкова, Евгений Мажугин, Капитолина Землякова и другие.

Работа в составе Общественного клуба научила меня не только находить вокруг себя проблемы, но и искать пути их решения. Благодаря участию в работе клуба я смогла попасть на обучение в общественную Школу молодежного лидерства. Там я подружилась с молодыми лидерами из разных городов нашей страны: Викторией Писарчик (Поставы), Алесей Новицкой (Мосты), Алексеем Козловским (Вилейка)

Тренеры Школы: Юнэля Сальникова, Михал Шлык, Лана Рудник с утра до вечера отдавали нам свои знания, демонстрировали терпение, такт, учили быть собой, учили добру, любви к ближнему, как к самому себе.

Сейчас мы работаем над просветительским проектом «Молодежь против насилия». Хочется привлечь внимание к проблемам насилия и помочь найти выход из такой ситуации.

Мечтаю приобрести побольше знаний о правах человека, о женщинах гражданского общества, чтобы быть полезной своей стране, тем, кто меня окружает. Хочу защищать слабого и быть достойным партнером для сильного.

Мечтаю сама увидеть, услышать, как живет молодежь в других странах: Польше, Германии, Франции.

Хотелось бы иметь современный компьютер, чтобы путешествовать по страницам Интернет, узнавать о жизни своих сверстников из других городов, переписываться с ними по электронной почте.

## Весткі ад суседзяў

***Колькасць грамадскіх арганізацыяў Асіповіччыны павялічылася на чатыры аб'яднанні.***

На апошнім паседжанні райвыканкама пастаўлены на ўлік грамадская арганізацыя Ветэранаў органаў Унутраных Спраў і Унутраных войскаў, суполкі "Беларускай федэрацыі шахмат", "Беларускай федэрацыі футболу" і "Беларускай федэрацыі баскетболу".

***Рыгор Латышэвіч***

# Шлях да перамогі

На пытанне "Ці можна перамагчы на выбарах, не карыстаючы адміністрацыйны рэсурс" адказвалі удзельнікі "круглага стала" "Выбары ў гарадскі Савет - вынікі новыя, пытанні старыя", арганізаванага Бабруйскай суполкай Арганізацыі Працоўных Жанчын сумесна з аб'яднаннем "Свая справа". У дыскусіі бралі ўдзел новаабраны дэпутат Бабруйскага гарадскога Савета, старшыня грамадскай ініцыятывы "Свая Справа" Алесь Чыгір, старшыня Свабоднага прафсаюза аднаго з бабруйскіх заводаў Міхаіл Кавалькоў, кандыдаты ў дэпутаты, удзельнікі кааліцыі "Сацыяльная дамова", актывісты грамадскіх арганізацый і палітычных партый.

Удзельнікі "круглага стала" прыйшлі да высновы— перамагчы на выбарах можна толькі працуючы на прафесійным узроўні з спрактыкаванай камандай і пры ўмове дапамогі незалежных назіральнікаў на кожным выбарчым участку.

***Людміла Кокаш***

Газета УзГорак
**Рэдактар** - ***Эдуард Брокараў;*** **тэхнічны рэдактар** - ***Дзям"ян Франкоўскі.***
**E-mail**: dnescer@tut.by
Выпуск-3, ад 25.03.2003 г. Фармат - А-4, 8 палос. Наклад - 299 асобнікаў.
**Адрас рэдакцыі:** *г. Горкі, зав. 2-гі Магілёўскі, д.1.*
Надрукавана ў КПУП *«Аршанская друкарня»* **па адрасу**: *г.Орша, вул. Замкавая, д.3.*
Заказ N2537.